# НАПАЛЕОН ОРДА

## NAPOLEON ORDA

З фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі
From the funds of the National library of Belarus

Мінск
«Беларусь»
2008

**УДК 75(476)(084.1)**
**ББК 85.14(4Беи)я6**
**О65**

Аўтар подпісаў пад ілюстрацыямі на польскай і французскай мовах
**Напалеон Орда**

Аўтар уступнага артыкула *В. К. Чаропка*
Укладальнікі *В. К. Чаропка, Дз. Э. Герасімовіч*
Пераклад на англійскую мову *Дз. У. Людчыка*
Пераклад на беларускую мову
*Ю. Ц. Петрыкеевай, А. С. Шагун*

Мастак *Дз. Э. Герасімовіч*

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу
і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства
інфармацыі Рэспублікі Беларусь

**ISBN 978-985-01-0737-4**

# Праслаўляючы творчы геній чалавека



1

Прырода шчодра адарыла Напалеона Орду талентамі. Без сумнення, каб ён прысвяціў сябе служэнню якой-небудзь адной са сваіх здольнасцей, то мог стаць вялікім мастаком, піяністам, кампазітарам або педагогам, асветнікам ці мысліцелем. Але і тое, што ён зрабіў, вылучае яго сярод творцаў таго часу.

Напалеон Орда нарадзіўся 11 лютага 1807 года ў маёнтку Варацэвічы Пінскага павета (сучасны Іванаўскі раён Брэсцкай вобласці). Бацька яго, Міхаіл, быў інжынерам-фартыфікатарам. Род Ордаў — татарскага паходжання. Далёкі продак Напалеона напрыканцы XIV стагоддзя прыбыў з земляў Залатой Арды ў часы вялікага князя літоўскага Вітаўта. Орды верай і праўдай служылі сваёй новай Айчыне і ўжо ў XVIII стагоддзі лічыліся даволі заможнай шляхтай.

Маці Напалеона Орды — Юзэфа — была дачкой пінскага суддзі і мечніка Тадэвуша Бутрымовіча.

Напалеон атрымаў ад бацькоў добрую пачатковую адукацыю. Першыя ўрокі ігры на фартэпіяна дала яму маці — таленавітая піяністка.

Далей была вучоба ў Свіслацкай гімназіі. У 1823 годзе Орда паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта, буйнейшага ў тыя часы адукацыйнага цэнтра. Перад юнаком адкрывалася выдатная перспектыва. Але скончыць універсітэт яму не давялося. Ахоплены высакароднай ідэяй незалежнасці Радзімы, ён становіцца членам тайнага студэнцкага таварыства «Заране», якое было выкрыта ў 1827 годзе. Напалеон Орда апынуўся за турэмнымі кратамі. Больш за год вялося следства. Яго выпусцілі з турмы, але «выкінулі» з жыцця, паставіўшы кляймо падазрэння.

Напалеон вяртаецца ў родны дом. Можна было б змірыцца з лёсам, але не такім быў Орда. Ён паступае жаўнерам на службу ў Літоўскі корпус коннай гвардыі. Якраз пачалося паўстанне ў Каралеўстве Польскім. Орда пераходзіць на бок паўстанцаў і становіцца падпаручнікам паўстанцкай арміі. За мужнасць у баях ён атрымлівае Залаты крыж ордэна Virtuti militari, вышэйшую ўзнагароду, а таксама чын капітана.

Пасля падаўлення паўстання ў 1831 годзе Орда выехаў за мяжу, бо на Радзіме яго чакала катарга.

Лёс эмігранта — гэта вымушанае прыстасаванне да новых абставін і ўмоў. Веданне моў, у прыватнасці французскай, палегчыла становішча Орды. Але адсутнасць сродкаў вельмі ўскладняла яго жыццё. З чужым пашпартам на імя слугі свайго сябра Цітуса Плонскага Напалеон пераязджае ў 1833 годзе са Швейцарыі ў Парыж, дзе жыве па 1856 год.

У Парыжы ён сустракаецца, сябруе з Ф. Шапэнам, Ф. Лістам, Дж. Расіні, Дж. Вэрдзі, Ш. Гуно, Г. Берліёзам, А. Міцкевічам, А. Стэндалем, А. Бальзакам, І. Тургеневым, П. Віярдо.

У 1843 годзе Напалеон Орда ажаніўся з француженкай Ірэнай Багле.

Матэрыяльныя нястачы, жыццёвая неўладкаванасць, туга па Радзіме праследавалі Напалеона, але натхненне не пакідала яго. Адбылося своеасаблівае раздваенне творчай асобы. Яго чаруе музыка і вабіць жывапіс. Здавалася, узрост для навучання не самы лепшы, але гэта не бянтэжыла Орду.



2

1. Варацэвічы. Varatseviczy
2. Свіслацкая гімназія. A gymnazium in Svislach
3. Партрэт Адама Міцкевіча. A portrait of Adam Mickiewicz
4. Від Парыжа 40-ых гадоў XIX ст. Paris of the 40s, 19th century


3

Ён бярэ ўрокі малявання ў вядомага французскага мастака П'ера Жэрара — майстра архітэктурнага пейзажа. У яго студыі Напалеон атрымоўвае мастацкую адукацыю. Адначасова ён удасканальвае сваю фартэпіянную ігру. Паўплываў на Напалеона Орду Фрэдэрык Шапэн. Шапэн выклікаўся быць настаўнікам Орды, але хутка настаўнік і вучань пасябравалі. Шапэн убачыў яго выдатныя музычныя здольнасці і кампазітарскі дар, любіў іграць з Ордам на фартэпіяна ў чатыры рукі, прысвяціў яму многія свае творы. У лістах да яго з пяшчотай называў Напалеона «Жыцце маё!» і падпісваўся: «Твой стары сябар Шапэн». Творы Напалеона Орды вызначаліся меладычнасцю і лірызмам, і іх з вялікім задавальненнем выконваў Ф. Шапэн.

У доме Шапэна Орда адпачываў душой. Менавіта тут ён сустрэўся з Ф. Лістам, які ацаніў яго талент імправізацыі і параіў сур'ёзна заняцца кампазіцыяй. Парада прыйшлася дарэчы. Орда захапіўся напісаннем вальсаў, паланезаў, рамансаў і іншых музычных твораў. У 1838 годзе ён выдае «Альбом твораў польскіх кампазітараў», у які ўключае і свае творы. Імя Напалеона Орды становіцца вядомым сярод аматараў музыкі.

У сярэдзіне 1840-ых гадоў Орда працуе дырэктарам Італьянскай оперы ў Парыжы. На жаль, праз некаторы час тэатр быў зачынены. І Напалеон Орда вярнуўся да выкладчыцкай працы. У вольны час ён падарожнічае. У гэты перыяд Напалеон Орда аддае перавагу жывапісу. Падарожнічаючы па краінах Еўропы, ён з пратакольнай дакладнасцю пераносіць на паперу відарысы помнікаў архітэктуры. Орда з планшэтам, алоўкам і фарбамі аб'ездзіў Англію, Шатландыю, Галандыю, Партугалію, Іспанію, Скандынавію, Алжыр — здзейсніў 13 падарожжаў, пасля якіх засталіся сотні цудоўных малюнкаў. Прыгажосць чужых краёў захапляла Напалеона Орду, але не магла зменшыць яго любоў да Радзімы. Сум па ёй з кожным годам нарастаў. І як яго сябар Адам Міцкевіч сніў родныя мясціны, так і Орду мроіліся ў снах бацькоўскія Варацэвічы. Здавалася, што ён ніколі ўжо не ўбачыць іх, не абдыме маці і сясцёр. Так, ён дамогся ў Парыжы прызнання, меў шчаслівую сям'ю. Чаго яшчэ трэба было? Радзімы! І як толькі ў 1856 годзе царскі ўказ абвясціў амністыю паўстанцам, Орда без асаблівых ваганняў вырашыў вярнуцца на Радзіму. Яго не спыніў і вымушаны разрыў з жонкай і сынам, якія засталіся ў Францыі і не адважыліся ехаць у глухое Палессе.

Напалеон Орда вяртаецца ў родныя Варацэвічы. Сустрэча з Радзімай радавала яго і засмучала. Знаёмыя краявіды абуджалі памяць аб дзяцінстве, аб шчаслівых днях у бацькоўскім доме. Але


4

смутак прыносіла беднота народа, паяромленага прыгонам. Ды і ў самога Орды ўзніклі праблемы: родныя Варацэвічы забрала царская ўлада за ўдзел у паўстанні. Напалеон быў пазбаўлены спадчыны і свайго дома. Як кампенсацыю ён атрымаў 5790 рублёў 50 капеек срэбрам. Гэтага было дастаткова, каб узяць у арэнду тры фермы, якія былі арганізаваны на базе маёнтка. Орда актыўна займаецца гаспадарчай справай, а ў вольны час падарожнічае і малюе. Ён дасканала валодаў тэхнікай алоўкавага малюнка, якая дазваляла хутка і дакладна адлюстраваць краявід ва ўмовах падарожжа. На яго малюнках ажывае гістарычна-паэтычны вобраз Беларусі, Літвы, Украіны, Польшчы.

Орда рабіў замалёўкі мясцін, звязаных з жыццём вядомых людзей, і архітэктурных помнікаў (больш за 200 па Беларусі). Сярод іх вылучаюцца віды гарадоў Гродна (больш за 20 малюнкаў), Віцеб-



5

5. Сафійскі сабор у Полацку.
St. Sophia Cathedral in Polatsk

6. Партрэт Станіслава Манюшкі.
A portrait of Stanisław Moniuszko

7. Убель. Ubel

8. Уладзімір-Валынскі. Vladimir-Volynskiy

9. Помнік Напалеону Орду ў Іванаве.
Скульптар Голубеў.
A monument to Napoleon Orda in Ivanava.
Sculptor I. Golubeu



6

ска, Магілёва, Полацка, Нясвіжа, Пінска, Навагрудка і інш. Намаляваныя Ордам сядзібы і палацы ў Завоссі і Паланэчцы, Тугановічах, Сконах, Моладаве, Дукорах, Ружанах, Прылуках і Астрашыцкім Гарадку і іншых мясцінах, а таксама замалёўкі помнікаў культавага дойлідства — Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы ў Полацку, Барыса-Глебскіх цэркваў у Гродне, Навагрудку, касцёлаў і кальвінскіх збораў у Ішкалдзі, Гнезне, Койданаве, Ружанах, Іванаве і інш. — маюць гістарычную каштоўнасць. Многія творы Орды носяць філасофска-сімвалічны характар, дзе сімвалы часу — гэта руіны замкаў, а замкі — сімвалы слаўнага мінулага роднага краю. І крохкія людскія постаці на іх фоне толькі падкрэсліваюць вядомае біблейскае выказванне пра мітусню. На малюнках Орды прадстаўлены Стары і Новы замкі ў Гродне, рэзідэнцыя Ільінічаў у Міры, старажытныя замкі ў Лідзе, Навагрудку, Крэве і інш.

Перадаючы дэталёва і скрупулёзна выгляды помнікаў дойлідства, палацаў, замкаў, пабудоў, Орда ўслаўляў стваральную працу чалавека, яго творчы геній. Сваімі малюнкамі ён не проста прызнаваўся ў любові да роднага краю, а ганарыўся яго багатай культурай і гісторыяй. Мы бачым на яго малюнках таксама народнае драўлянае дойлідства, паселішчы ўздоўж рэк і азёр, калодзежы-журaўлі, ветракі, якія вельмі добра перадаюць нацыянальны каларыт.

На многіх малюнках Орды прысутнічае сюжэт дарогі. Дарога вядзе да дома, да храма, а то і ў далечыню, у шырокі свет — яна набывае сімвалічны сэнс. Жыццё Напалеона Орды было звязана з дарогай, з падарожжамі: гэта і блуканне па пуцявінах чужых краёў, і вяртанне на Радзіму, і зноў падарожжа па шырокім свеце. Дарога — сімвал жыцця Орды, мастака, вандруючага паміж мінулым і сённяшнім.

Многія малюнкі Напалеона Орды звязаны з імёнамі знакамітых людзей, сучаснікаў мастака і яго сяброў: А. Міцкевічам (сядзібы ў Завоссі, Тугановічах), С. Манюшкам (сядзіба ў вёсцы Убель), М.Агінскім (палац у Рэтавасе ў Літве), Т. Касцюшкам (сядзіба ў Косаве) і інш.

Так бы і працягвалася жыццё Напалеона Орды, каб не паўстанне ў 1863 годзе, якое ўспыхнула ў Польшчы і ахапіла беларускія землі. Прамых сведчанняў яго удзелу ў паўстанні няма. Але царскія ўлады не без падстаў падазравалі і Орду: былы паўстанец не мог быць абыякавым да барацьбы за свабоду роднага краю. Высветлілася, што ён адаслаў сваіх дваровых людзей у паўстанцкі атрад. У доме Напалеона знайшлі таксама парахаўніцу з порахам і падазроныя паперы. Гэтага хапіла, каб яго арыштаваць і зняволіць у Кобрынскую турму. Год следчыя вялі справу. Па рашэнню ваенна-палявога суда Орду павінны былі выслаць у глыб Расіі. Але прысуд быў перагледжаны, і ў 1867 годзе яго выпусцілі з турмы. Напалеон жыве ў гэты час у маёнтку сваёй сястры Гартэнзіі. Ён шмат малюе. У мастацтве Орда знаходзіць суцяшэнне ад нярадасных думак пра будучыню.

Нечакана ён атрымаў запрашэнне ад адстаўнога генерала Адама Ржавускага навучаць яго сына музыцы і маляванню. Орда пасяліўся ў Чуднове, маёнтку Ржавускіх, якія славіліся сваёй любоўю да літаратуры і мастацтва. У іх доме напрыканцы 1840-ых гадоў жыў Ян Баршчэўскі, аўтар славутага твора «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Дачка А. Ржавускага была жонкай Бальзака. Атмасфера пакланення музам, якая панавала ў доме Ржавускіх, спрыяла росквіту талентаў Напалеона Орды.

Орда быў не толькі цудоўным мастаком, музыкантам, кампазітарам, але і педагогам. Ён — аўтар «Граматыкі польскай мовы» для французаў, якая выйшла ў 1856 годзе ў Парыжы, а потым — у 1858 і 1874 гадах — у Варшаве. Вынікам шматгадовай працы стала «Граматыка музыкі», якая ўбачыла свет у 1873 годзе ў Варшаве. Аб ёй з захапленнем адзываўся С. Манюшка.

Магчыма, у Чуднове і нарадзілася ў яго ідэя стварыць мастацкую энцыклапедыю гістарычных мясцін, увекавечыць алоўкам «старыя руіны замкаў і выдатныя рэзідэнцыі, што сведчаць аб прыгажосці і цывілізацыі краю».

З юнацкім запалам Орда прымаецца за ажыц-


7


8

цяўленне сваёй задумы. Духоўную падтрымку яму аказаў вядомы польскі пісьменнік і гісторык Ю. Крашэўскі.

Больш як дзесяць гадоў, да самай смерці, Напалеон Орда прысвяціў ажыццяўленню сваёй задумы. Ён аб'ездзіў Гродзенскую, Мінскую, Віцебскую, Магілёўскую, Віленскую, Кіеўскую, Падольскую, Ковенскую, Ліфляндскую губерні, а таксама Пазнаншчыну, Мазовію, Прусію і іншыя мясціны.

Мастак сістэматызаваў свае творы. Кожнай губерні прызначалася асобная папка. Лепшыя малюнкі Орды друкаваліся ў папулярных польскіх часопісах пад спецыяльнай рубрыкай «З папкі Напалеона Орды», што спрыяла шырокай вядомасці іх аўтара. Магчыма, апошняя акалічнасць падштурхнула яго да выпуску сваіх малюнкаў-літаграфій асобнымі серыямі. У 1873 годзе ў Варшаве выходзіць першая серыя — «Альбом гістарычных краявідаў Польшчы» («Album Widoków Historycznych Polski»). Літаграфіі з малюнкаў зрабіў Алаіз Місуровіч на Варшаўскім літаграфічным камбінаце Максіміляна Фаянса. Выданне Орда ажыццявіў за свой кошт.

На вокладцы ён змясціў літаграфію з відарысам родных Варацэвічаў і зрабіў надпіс: «Уласнасць роду Ордаў на працягу 300 гадоў да 1831 года — незабыўная і дарагая для аўтара Радзіма». Вяртанне да малой радзімы стала для яго адкрыццём Айчыны, якую ён адкрываў для іншых.

Альбом выйшаў значным накладам і карыстаўся добрым попытам. Юзаф Крашэўскі пісаў: «Гэтыя пейзажы — адзіны збор такога роду. Не ведаю чалавека, якому ўдалося зрабіць нешта падобнае. Мы атрымлівалі асалоду, разглядаючы іх і ўспамінаючы розныя мясціны. Дзякую Вам за гэтую выдатную працу. Калі альбом яшчэ папоўніцца, як Вы абяцаеце, то шчасліва завершыцца яшчэ адна велізарная праца, якая многіх спакушала, але якую ніхто не змог выканаць».

На вырučаныя грошы Напалеон Орда выдае наступны альбом. Усяго было надрукавана восем альбомаў, у якіх было змешчана 260 малюнкаў-літаграфій.

У 1880 годзе Орду прымаюць у Варшаўскае таварыства заахвочвання прыгожага мастацтва. Ён становіцца адным з заснавальнікаў Мінскага музычнага таварыства, стварае стыпендыяльны фонд для падтрымкі здольных вучняў рэальнай школы ў Пінску. Вартая павагі яго шматгранная дзейнасць на ніве культуры. Усё зробленае Напалеонам Ордам стала набыткам еўрапейскай культурнай спадчыны.

Даследчыкі лічаць, што мастацкая скарбніца Напалеона Орды налічвае больш за 2000 малюнкаў, да нашага часу дайшло больш за 1000. Арыгіналы іх захоўваюцца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве (большая частка), у Нацыянальным музеі ў Варшаве, альбом акварэляў — у бібліятэцы імя В. Стафаніка ў Львове, адзін з альбомаў літаграфій з малюнкаў Напалеона Орды — у Валынскім краязнаўчым музеі. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі таксама ёсць вялікая калекцыя літаграфій з малюнкаў Орды.

Апошнія гады жыцця Напалеон Орда падарожнічаў па Галіччыне, Келецкіх, Сувалкскіх і Варшаўскіх землях, працягваў шмат маляваць. У 1883 годзе раптам захварэў і памёр у адным са шпіталяў Варшавы. Пахаваны ў радавым склепе на радзіме ў Іванаве. Аб гэтым Напалеон Орда прасіў у сваім завяшчанні.

У 1997 годзе ў Іванаве яму ўсталяваны помнік, які стварыў таленавіты скульптар І. Голубеў. Але лепшым помнікам Напалеону Орду сталі яго творы, у якіх праслаўляецца творчы геній чалавека.



# Celebrating Genius of Napoleon Orda





Nature generously endowed Napoleon Orda with many talents. No doubt, if he had devoted his life to one of his extraordinary capabilities, he would have become a great artist or a piano player, a composer or a teacher, an enlightener or a thinker. But his workmanship distinguishes him from all creative persons of those times.

Napoleon Orda was born on February 11, 1807 in the village of Varatsevichy in the Pinsk district (today — the Ivanava region of Brest oblast). His father, Mikhail, was an engineer-fortifier. The forefathers of the Ordas were Tatars by birth. At the end of the $14^{th}$ century an ancestor of Napoleon left the lands of the Golden Horde and came to the medieval Lithuania, which was ruled then by Grand Duke Witold the Great. The Ordas served faithfully to their new Motherland and in the 18th century were considered to be rich Polish gentlemen.

His mother, Józefa, was a daughter of a Pinsk judge and a sword-bearer Tadeusz Butrymowicz.

Napoleon received a good primary education from his parents. His mother, who was a talented piano player, gave him first piano lessons.

After finishing a secondary school in Svislach in 1823, he became a student of the physical and mathematical department of Wilno University — the biggest educational center of those times. Excellent future prospects opened before the young man. However, he never graduated from the university. Being absorbed with the idea of making his Motherland independent, he became a member of an illegal patriotic organization «Zaranie» and was arrested in 1827 by the Russian secret police. Although he was released a year later, he was not allowed to continue his studies.

Napoleon came back to his parents' house. He was not the kind of person that could resign himself to his fate. He enlisted as a soldier to the Lithuanian cavalry corps. A bit later a rebellion broke out in the Polish Kingdom. Napoleon joined the rebels and became a junior commander of the rebel army. For his courage in battle he was given the highest award — a Golden Cross of the Virtuti Militari Order and was promoted to captainship.

The rebellion put down in 1831, Napoleon filed abroad to escape being imprisoned and sent to Siberia.

The life of an immigrant means adapting to new conditions and environment. Being proficient in languages, in particular in French helped Napoleon to survive. However, the lack of money made his life miserable. On acquiring a passport under the name of a servant of his best friend Titus Płonski in 1833, Napoleon left Switzerland for Paris where he lived till 1856.

In Paris he made friends with Frederic Chopin, Ferents Liszt, Joakkino Rossini, Giuseppe Verdi, Scharl Gounod, Gektor Berlioz, Adam Mickiewicz, Stendhal, Honoré de Balzac, Ivan Turgenev and others.



10. Замалёўка сядзібы Варацэвічы.
A drawing of the Varatsevichy estate

11. Замалёўка Кобрына.
A drawing of Kobryn

12. Яблaнава. Yablanava

13. Ліст да Ігнацiя Дамейкі.
A letter to Ignace Domejko



12

In 1843, he married Irene Bougle. Financial problems, bad living conditions and nostalgia, marked those years of Napoleon's life. Yet, he never stopped creating. He was charmed both with music and painting. It seemed, it was not the best age for studies but Napoleon did not care. He took painting lessons from the famous Pierre Gerard, the master of architectural landscapes. Napoleon received art education in his studio. At the same time he polished his piano playing skills. That was Frederic Chopin who influenced Napoleon Orda. At first Frederic Chopin, who had discovered Napoleon's outstanding musical abilities and composer's talent, was his teacher but soon after he became his true friend. Frederic Chopin liked to play piano four hands with Napoleon and dedicated many compositions to him. In his letters to Napoleon he called him «My life» and signed them «Your old friend Chopin». Frederic Chopin also liked to play Napoleon's compositions full of lyricism and tenderness.

That was Chopin's house where Napoleon could relax. There he met Ferents Liszt, who appraised his talent and advised to start composing. That was very sound advice. Napoleon started writing waltzes, polonaises, romances and other musical pieces. In 1838, he published «Album of Works of Polish Composers» containing his compositions as well. The name of Napoleon Orda became famous among music lovers.

In the mid 1840s, Napoleon Orda worked as the head of the Italian Opera in Paris. However, the opera was shut down and Napoleon had to return to composing. He spent most of his time traveling. Those days he preferred painting. While visiting different European countries he was painting monuments of architecture. Having a plane-table, pencils and paints Napoleon traveled around England, Scotland, Holland, Portugal, Spain, Scandinavia and Algeria. On completing 13 journeys he drew hundreds of wonderful drawings. The beauty of foreign countries fascinated Napoleon Orda but it could not substitute his love to Motherland. This feeling of nostalgia constantly bothered him. Like his friend Adam Mickiewicz he was dreaming of native places, his Varatsevichy.




13

Napoleon thought he would never see his mother and sisters again. No doubt, he gained public recognition in Paris and made his family happy. What else did he need? The answer is the Motherland. In 1856, the rebels were pardoned and Napoleon was allowed to return to Poland. Even a sudden separation with his wife and son, who stayed in France and did not want to go to the backwoods of Polesye, could not stop him from coming back home.

Napoleon Orda returned to Varatsevichy. Coming back to his Motherland made him happy and sad at the same time. On the one hand native landscapes awakened reminiscences of his childhood and happy days in his parents' house. On the other hand poverty of the enslaved people saddened him. Besides, after coming home Napoleon encountered problems himself — after the uprising his manor and the village of Varatsevichy were confiscated. Napoleon was given compensation worth of 5790 silver rubles 50 kopeks. That was enough to lease three farms, which had been opened in his former estate. Napoleon buckled down


14

to farming and spent his spare time traveling and painting. He mastered pencil drawing techniques, which helped him draw landscapes while traveling. His pictures depicted historical-poetic images of Belarus, Lithuania, Ukraine and Poland.

Napoleon Orda made more than 200 drawings of the Belarusian architectural monuments and the places where famous people lived. Among them are townscapes of Grodna (more than 20 drawings), Vitsebsk, Magilyou, Polatsk, Nyasvizh, Pinsk, Navagrudak and others. He painted manors and palaces in Zawossye, Palanechka, Tuganavichy, Skoki, Moladava, Dukory, Ruzhany, Pryluki and Astrashytski Garadok as well as religious sites — St. Sofia Cathedral and St. Euphrosyne Convent in Polatsk, the Churches of Sts. Boris and Gleb in Grodna and Navagrudak, cathedrals in Gniezno, Koydanava, Ruzhany, Ivanava and others, which are historical values nowadays. Many works of Napoleon Orda are philosophic and symbolic, where the ruins of the castles are the symbols of the time while the castles are the symbols of the great history of the native land. Fragile people's figures against their background accentuate the well-known saying from the Bible about the rush. Napoleon Orda's drawings feature the Old and New Castles in Grodna, Illinichis' residence in Mir, medieval castles in Lida, Navagrudak, Kreva and others.

Depicting in every detail the species of architecture, palaces, castles, buildings Orda glorified the creative work and creative genius of a man. In his paintings he made a declaration of love to his native land feeling proud of its rich culture and history. His drawings also feature the wooden houses of ordinary people, villages along the rivers and lakes, wells and mills which communicate well the national colours.

A road is the subject of many drawings of Napoleon Orda. Leading to a home or stretching in the distance — a road acquires a symbolic sense. The life of Napoleon Orda was connected with the road and traveling: wandering in foreign countries, coming back home and again traveling around the world. The road is the symbol of Napoleon Orda's life, an artist traveling between the past and the present.

Many drawings of Napoleon Orda were connected with the names of famous people, contemporaries of the artist and his friends: Adam Mickiewicz (the estates in Zawossye, Tuganavichy), S. Moniuszko (the estate in the village Ubel), Mikhail Ogińsky (a palace in Retavas in Lithuania), Tadeusz Kościuszko (Kosovo), and many others.

Napoleon Orda would carry on in that way if not the rebellion in 1863 in Poland and Belarus. There was no direct evidence of his involvement in the rebellion. Yet, the authorities had every reason to suspect Napoleon Orda: the former rebel could not remain indifferent to the fight for independence of the native land. It turned out that he sent his house-serfs to help a squad of rebels. A powder-flask with powder and some suspicious papers were found in the house of Napoleon. That was enough to arrest him and land him in prison in Kobryn. The investigation was underway for about a year. By decision of a drum-head court martial Napoleon Orda was ruled to go to exile to some remote place in Russia. Yet, the verdict was revised and Napoleon Orda was released in 1867. At that time Napoleon settled in the house of his sister Gartenzia. He was all into the creative work to console and get away from sad thoughts about the future.

Suddenly he received an invitation from the retired general Adam Rzewuski to teach his son music and painting. Napoleon Orda moved into Czudnova — the residence of the Rzewuski family who were famous for their love of literature and arts. In the late 1840s Jan Barszczewski, the author of the well-known «Gentleman Zavalnya, or Belarus in fantastic stories» lived in their house as well. The daughter of Adam Rzewuski was Balzac's wife. The atmosphere of workshipping the arts which reigned in the house of Rzewuskis favoured the development of Napoleon Orda's talents.

He was not only a wonderful artist, musician, composer but also a teacher. He wrote the book «The Grammar of the Polish Language» for the French which was published in 1856 in Paris and later, in 1858 and 1874, — in Warsaw. The many-year work resulted in the book «The Grammar of Music» which was edited in 1873 in Warsaw. Stanisław Moniuszko spoke highly of the book.

14. Варшава. Warsaw

15. М. К. Агінскі. M. K. Ogiński

16. Вул. Каралеўская ў Вільні. Karaleuskaya Street in Wilno



Probably in Czudnova he had the idea to create an encyclopedia of drawings of the historical places to immortalize the «old ruins of the castles and wonderful residences which showed the beauty and civilization of the land».

In a fit of a temper of a young man Napoleon Orda got down to work. He got a moral support from the famous Polish writer and historian J. Kraszewski.

Napoleon Orda devoted more than ten years to this work. He traveled around Grodna, Minsk, Vitsebsk, Magilyou, Wilno, Kiev, Podolsk, Kouna, Livland provinces and also Poznań, Masovia, Prussia and other places.

The artist systematized his works. Every province had an individual file. His best paintings were published in popular Polish magazines under the special heading «From the file of Napoleon Orda» what promoted the popularity of their author. Probably this fact prompted the artist to publish his drawings-lithographs in special series. The last series «The album of the historical places of Poland» (Album Widoków Historycznych Polski) was edited in 1873, in Warsaw Aloiz Misurowicz made lithographs from the drawings at the Warsaw lithography mill of Maximilian Fayans. The edition was sponsored by Napoleon Orda.

The cover featured the lithograph with the views of the native Varatsevichy and an inscription: «The property of the Orda family throughout 300 years until 1831 — the Motherland, unforgettable and dear to the author». Coming back to the home place was the discovery of the Motherland which he later discovered for others.

The album had a big circulation and was very popular. Józef Kraszewski wrote: «These landscapes are the only collection of this kind. I do not know any other person who managed to accomplish something of this kind. We enjoy looking through and remembering different places. I thank you for this wonderful work. If the album gets bigger, as you promise, then it will be a happy ending to the great job which tempted many but who nobody ever did».

The revenues from the album helped Napoleon Orda sponsor another edition. All in all eight albums featuring 260 drawings-lithographs were edited.

In 1880, Napoleon Orda was admitted to the Warsaw association of admirers of fine arts. He became one of the founders of the Minsk music association, created a fund to support talented students of a school in Pinsk. Everything Napoleon Orda did has become the European cultural heritage.

The researchers believe that the artistic heritage of Napoleon Orda numbered over 2000 drawings, with over 1000 remaining until now. The original works are kept in the National Museum in Krakow (most part), the National Museum in Warsaw, the album of water-colour drawings — in the Stefanik library in Lvov, one of the albums — in Volyn museum of local lore. The National Library of Belarus also has a big collection of the lithographs from Orda's drawings.

Napoleon Orda spent his last years painting much traveling around Galitschina, Kelce, Suwałki and Warsaw lands. In 1883, he fell ill and died in one of the hospitals of Warsaw. He is buried in the family crypt in Ivanava which he asked about in his will.

In 1997, Ivanava inaugurated a monument to Napoleon Orda made by talented sculptor I. Golubeu. Yet, the best monument is his works which glorify the creative genius of a man.






## АДЖЫКОНЬ НЕДАЛЁКА АД РАКІ ВІСЛОКІ

(Галіцыя)

Замак у XIII стагоддзі належаў уладальнікам Маскорава, адзін з якіх, Клеменс, атрымаўшы ў 1408 годзе гэты замак, называемы таксама Камянцом, даў пачатак слаўнаму роду Камянецкіх герба «Пілава».
Потым Аджыконь належаў Бонарам і Фірлеям. У 1657 годзе Ян Ракочы, князь сямігародскі, заваяваў замак, а гарнізон выратаваўся праз падземны ход. У 1790 годзе замак быў ва ўласнасці графа Ябланоўскага.

## ODRZYKOŃ NOT FAR FROM THE WISŁOKA RIVER

(Galicia)

In the 13th century the castle belonged to the Maskorzew family.
One of them — Clement who inherited the castle which was also dubbed as Kamenets gave a start to the famous Kamieniecki family of the Pilawa coat of arms.
Later Odrzykoń belonged to the Bonar and Firlej families. In 1657, Jan Rakoczy, Duke of Siedmiogrod, conquered the castle; its garrison left the castle through the underpass.
In 1790, the castle belonged to Count Jabłonowski.



Rys. z natury Napoleon Orda. Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie

OLESKO NAD ŹRÓDŁAMI STYRU

(Galicya)

Zamek Olesko odziedziczył Bolesław Trojdenowicz ks. Mazowiecki r. 1327. Na mocy traktatu z W. X. Litewskim Olgierdem, Olesko przechodzi do Ludwika króla Polskiego i Węgierskiego r. 1366. Król Władysław Warneńczyk w r. 1441 darowywa zamek z całym powiatem Janowi z Sienna. Od Siennińskich przechodzi do Górków, Żółkiewskich, Daniłowiczów i Sobieskich. Tu się urodził król Jan III 2 Czerwca 1624 i król Michał Korybut Wiszniowiecki r. 1639

Bolesław Trojdenowicz prince de Masovie hérita du château en 1327 qui passa à Louis roi de Hongrie et de Pologne en 1366, par suite d'un traité avec le Grand duc de Lithuanie Olgierd Le roi Ladislas de Warna en fit donation avec tout le district en 1441 à Jean de Sienna. Cette propriété passa des familles Sienniński, Górka, Żółkiewski, Daniłowicz à celles des Sobieski C'est à Olesko que naquit le 2 Juin 1624 le roi Jean III libérateur de Vienne. Le roi Michel Korybut Wiśniowiecki y vit aussi le jour l'an 1639

## АЛЕСКА НАД КРЫНІЦАМІ СТЫРЫ

(Галіцыя)

Замак Алеску атрымаў у спадчыну ў 1327 годзе Баляслаў Тройдзеневіч, князь мазавецкі.
По дагавору вялікага князя літоўскага Альгерда
Алеска ў 1366 годзе пераходзіць да Людвіка, караля польскага і венгерскага.
Кароль Уладзіслаў Варненчык у 1441 годзе падарыў замак з цэлым паветам Яну з Сенна.
Ад Сенніцкіх ён пераходзіць да Гуркаў, Жалкеўскіх, Даніловічаў і Сабескіх.
Тут нарадзіліся кароль Ян III (2 чэрвеня 1624 года) і кароль Міхал Карыбут Вішнявецкі (у 1639 годзе).

## OLESKO ON THE STYR SPRINGS

(Galicia)

In 1327, Olesko castle belonged to Bolesław Trojdenewicz, Duke of Masovia.
Under the agreement with Great Duke of Lithuania Olgerd,
in 1366 Olesko was passed over to Ludwik, King of Poland and Hungary.
King Władysław Warneńczyk presented the castle to Jan from Sienna in 1441.
Then the castle changed hands — from the Górki family to the Żółkiewskis, Daniłowiczs and Sobieskis.
Jan the Third (June 2, 1624) and King Michał Korybut Wiszniowiecki (1639) were born there.



Rys z natury Napoleon Orda. w Lit. M. Fajansa w Warszawie

## OŁYKA

(G. Wołyńska)

Własność niegdyś Kiszków. Ołyka przeszła póżniej do Radziwiłłów. Mikołaj Czarny otrzymał tytuł Księcia od Cesarza Karola V r. 1549. Pierwszym ordynatem Ołyki był Ks. Stanisław Marszałek W. Litewski r. 1589. Kozacy zniszczyli miasto r. 1648. Zamek obronny założony został r. 1564. Kościół S^t Trójcy zbudował Ks. Albrecht Stanisław Radziwiłł Kanclerz W. Litewski r. 1635.

Autrefois propriété de la famille Kiszka. Ołyka passa plus tard aux Radziwill. Nicolas le Noir obtint le titre de Prince, de l'Empereur Charles V en 1549. Ołyka fut érigée en majorat pour le Prince Stanislas G. Maréchal de Lithuanie et ses descendants en 1589. Les Cosaques détruisirent la ville en 1648. Le château fort fut élevé en 1564. Le Prince Albert Stanislas G. Chancelier fonda l'église de la S^te Trinité en 1635.

## АЛЫКА

(Валынская губерня)

Калісьці належала Кішкам, затым перайшла да Радзівілаў.
У 1549 годзе Мікалай Чорны атрымаў тытул князя ад караля Карла V.
Першым ардынатам Алыкі стаў у 1589 годзе князь Станіслаў, маршалак вялікі літоўскі.
Казакі знішчылі горад у 1648 годзе. Абарончы замак заложаны ў 1564 годзе.
Касцёл Святой Тройцы ў 1635 годзе пабудаваў князь Альбрэхт Станіслаў Радзівіл, канцлер вялікі літоўскі.

## OLYKA

(Volyn province)

Once the estate belonged to the family of Kiszka, later was passed over to the Radziwiłłs.
Mikołaj the Black was granted the title of Duke from King Charles the Fifth in 1549.
Olyka's first governor was Duke Stanisław, Grand Marshal of Lithuania, in 1589.
The Cossacks plundered and burnt down the town in 1648. The fortified castle was founded in 1564.
St. Trinity Church was built by Duke Albrecht Stanisław Radziwiłł, Grand Chancellor of Lithuania, in 1635.



Rys z natury Napoleon Orda. Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie

ALEXANDRÓWKA
(G. Kijowska)

Pałac nad rzeką Taśminą posiadłość Michała Grabowskiego literata

Chateau sur les bords de Taśmina propriété de Michel Grabowski homme de lettres

## АЛЯКСАНДРАЎКА
(Кіеўская губерня)

Палац над ракой Тасмінай, сядзіба пісьменніка Міхала Грабоўскага.

## ALEXANDROVKA
(Kiev province)

A palace on the Tasmina River, the estate of writer Michał Grabowski.



Rys. z natury Napoleon Orda | Lit. w Lit. M Fajansa w Warszawie

ANTONINY.

G. Wołyńska.

Pałac Hrabiny Maryi Alfredowej Potockiej z domu Xiężniczki Sanguszkowej. | Château de Madame la Comtesse Marie, épouse du Comte Alfred Potocki née Princesse Sanguszko.

## АНТОНІНЫ

(Валынская губерня)

Палац графіні Марыі Альфрэдаўны Патоцкай з роду князёў Сангушкаў.

## ANTONINY

(Volyn province)

The palace of Countess Maria Potocka nee Sanguszko.



Rys. z natury Napoleon Orda. | Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

**OSWIEJ**
(Gub: Witebska)

Oswiej należał do Wojewody Mścisławskiego Józefa Hrabiego Hylzena po którym w r. 1781 posiadłość ta przeszła na Szadurskich. Były tu szkoły, pensya panien i szpital. Staraniem właścicieli w skutek testamentu J. Hylzena, kilka tysięcy młodzieży obojej płci otrzymało szkolne wychowanie.

Oswiej appartenait à Joseph Comte Hylzen Voïevode Palatin de Mscesław. En 1781 passa aux Szadurski. Il s'y trouvait des écoles, une pension de jeunes filles et un hôpital. - Suivant le testament de J. Hylzen plusieurs milliers d'élèves de deux sexes furent élevés aux frais des propriétaires.

## АСВЕЯ
(Віцебская губерня)

Асвея належала мсціслаўскаму ваяводу графу Юзафу Гільзену, пасля якога ў 1781 годзе перайшла да Шадурскіх. Тут існавалі школы, пансіён паненак і шпіталь. Некалькі тысяч хлопцаў і дзяўчат атрымалі школьнае выхаванне.

## ASVYEYA
(Vitsebsk province)

Asvyeya belonged to Voevode of Mstislavl Jósef Hylzen. In 1781 the estate was passed over to the Szadurski family. It housed schools, a finishing school and a hospital. Several thousands of young girls and boys received school education there.



Rys. z natury Napoleon Orda

Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie

**OSTRÓG.**

G. Wołyńska.

Ruiny Kościoła i Klasztoru Jezuitów założonego przez Annę Aloizę Chodkiewiczową z domu Xż. Ostrogska, tu złożyła zwłoki męża Jana Chodkiewicza sprowadzone z Chocima r. 1624

Les ruines de l'église et du couvent des Jésuites fondés par Anne Aloïze Chodkiewicz née Princesse d'Ostróg - ici réposent les cendres de Jean Chodkiewicz apportées de Chocim en 1624.

## АСТРОГ

(Валынская губерня)

Руіны касцёла і кляштара езуітаў, заснаваных Ганнай Алаізай Хадкевіч з роду князёў Астрожскіх; тут яна пахавала мужа Яна Хадкевіча, прывезенага з Хоціма ў 1624 годзе.

## OSTROG

(Volyn province)

The ruins of a Roman-Catholic church and a Jesuit monastery founded by Anna Aloiza Chodkiewicz nee Ostrogska; her husband Jan Chodkiewicz was killed in the Battle of Khotyn and was buried in Ostrog in 1624.



Rys z natury Napoleon Orda — Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie

OSTRÓG
(G. Wołyńska)

Ruiny Zamku obronnego założonego przez Fedkę z Nieświesza Xięcia na Ostrogu w r. 1221. Ruina nosi datę 1325 r.

Les Ruines du Château fort construit en 1221 par Fedko de Nieświesz Prince d'Ostróg. La ruine porte la date de l'an 1325

## АСТРОГ
(Валынская губерня)

Руіны абарончага замка, заснаванага ў 1221 годзе князем Федкам Астрожскім з Нясвіжа. Датаваны 1325 годам.

## OSTROG
(Volyn province)

The ruins of the fortified castle was founded in 1221 by Duke Fedko Ostrogski from Nyasvizh. Dated back to 1325.



Rys. z natury Napoleon Orda. Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

BOHATERKA
(Gub. Kijowska)

**БАГАТЫРКА**
(Кіеўская губерня)

**BOGATYRKA**
(Kiev province)



Rys. z natury Napoleon Orda

Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

## BARAŃÓW NAD WISŁOKĄ
(Galicya)

Bogusław Jaksyca, wzniósł ten zamek r. 1135. przez Pomorzan wziętych w niewolę. Późniejszy dziedzic Paweł Gozdawczyk darował go Kazimierzowi W. Król oddaje Baranów Piotrowi Grzymalczykowi za uratowanie mu życia na wojnie. Litwini zburzyli zamek r. 1376. Gościł tu nieraz król Stefan Batory. Dobra przechodzą do Leszczyńskich 1575. Wiśniowieckich, Lubomirskich, Małachowskich, Firlejów, Sanguszków, Krasickich, nakoniec Dolańskich. Tu była założoną drukarnia roku 1628.

Boguslas Jaksyca, fonda ce château en 1135, les prisonniers de guerre faits en Poméranie le construisirent. Paul Gozdawczyk l'offrit à Casimir le G^d. qui en fit don à Pierre Grzymalczyk, pour lui avoir sauvé la vie dans la guerre. Les Lithuaniens détruisent ce fort en 1376. Le roi Etienne Batory y séjournait. Baranów passa successivement aux Leszczyński 1575. Wiszniowiecki, Lubomirski, Małachowski, Firlej, Sanguszko, Krasicki, en fin aux Dolański. Il y avait ici une imprimerie fondée en 1628.

## БАРАНАЎ НАД ВІСЛОКАЙ
(Галіцыя)

Багуслаў Яксыца ўзвёў гэты замак у 1135 годзе палоннымі паморцамі.
Пазнейшы ўласнік Павел Газдаўчык падарыў яго Казіміру Вялікаму.
Кароль аддае Баранаў Пятру Грымальчыку ў знак удзячнасці за выратаванне яму жыцця на вайне.
Літвіны разбурылі замак у 1376 годзе. Тут не раз гасцяваў кароль Стафан Баторый.
Маёмасць пераходзіла да Ляшчынскіх (1575), Вішнявецкіх, Любамірскіх, Малахоўскіх, Фірлеяў, Сангушкаў, Красіцкіх, урэшце да Далянскіх. У 1628 годзе тут была заснавана друкарня.

## BARANÓW ON THE WISŁOKA RIVER
(Galicia)

Bogusław Jaksyca used Pomeranian captives to build the castle in 1135.
The next owner Pavel Gozdawczyk presented the castle to Casimir the Great.
The King gave the castle to Piotr Grzymalczyk as an expression of gratitude for saving his life at war.
The Lithuanians ruined the castle in 1376. King Stefan Batory stayed at the castle.
The estate changed hands of the Leszczyńskis (1575), Wiszniowieckis, Lubomirskis, Małachowskis, Firlejs, Sanguszkos, Krasickis and finally the Dolańskis. A printing house was opened there in 1628.



Rys. z natury Napoleon Orda

Litw Lit M. Fajansa w Warszawie.

BORSZCZAJÓWKA NAD RZEKĄ ROSIĄ
( Gub. Kijowska )

Tu Mazepa kazał ściąć d.14 Lipca Jskrę pułkownika pułku Półtawskiego i Koczubeja Sędziego głównego Armii Kozackiej. Mazepa ich poświęcił zemście za to że go oskarżali o zdradę w czasie wojny Piotra W. z Karolem XII r 1708 Własność Hr. Generała Adama Rzewuskiego

C'est ici qui Mazepa fit decapiter le 14 Juillet Jskra Colonel du regiment de Pultawa et Koczubej le juge général de l'armée. Mazepa les sacrifia à sa vengeance parce qu'ils l'avaient accusé de trahison pendant la guerre de Pierre le Grand contre Charles XII en 1708. Propriété du Comte Général Adam Rzewuski

## БАРШЧАЁЎКА НАД РАКОЙ РОСЬ

(Кіеўская губерня)

Тут Мазепа 14 ліпеня загадаў пакараць смерцю Іскру, палкоўніка Палтаўскага палка, і Качубея, генеральнага суддзю казацкай арміі. Мазепа адпомсціў ім за тое, што яго ў 1708 годзе абвінавацілі ў здрадзе ў час вайны Пятра Вялікага з Карлам XII. Уласнасць графа генерала Адама Ржавускага.

## BORSCHAYOVKA ON THE ROS RIVER

(Kiev province)

On July 14, Mazepa ordered to execute Iskra, Colonel of the Poltava regiment, and Kochubey, chief judge of the Cossack Army. In that way Mazepa took revenge for their accusing him of treason in 1708 during the war led by Peter the Great against Charles XII. The estate of Count General Adam Rzewuski.



Rys. z natury Napoleon Orda. Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

BIAŁOPOLE.
(G. Kijowska.)

Starożytne Zamczysko na którym stoi Kościół wzniesiony przez Hr Wincentego Tyszkiewicza Referendarza W.X.L.

Ancien Chateau-fort. L'eglise fut erigée par le Comte Vincent Tyszkiewicz Référandaire de la Lithuanie.

## БЕЛАЕ ПОЛЕ

(Кіеўская губерня)

Старажытнае замчышча, на якім стаіць касцёл, збудаваны графам Вінцэнтам Тышкевічам, рэферэнцыем Вялікага княства Літоўскага.

## BILE POLYE

(Kiev province)

Count Wincent Tyszkiewicz, adviser in the Great Duchy of Lithuania, built a Roman-Catholic church in the place of the former ancient castle.




BIAŁOŁÓWKA.
(G. Kijowska.)

Zamek obronny, założony w XVII wieku przez X. Annę z Chodkiewiczow Korecką dla schronienia uciekającym rodakom z niewoli pogańskiej. W ostatnich czasach należała do Hr Potockich Hermana i Józefa.

Château fort construit au XVII siècle par la P^sse Anna Korecka née Chodkiewicz comme asile pour les concitoyens fugitifs des prisons Turques et Tartares. En dernier lieu Białołówka fut la propriété des C^tes Potocki Hermann et Joseph.

## БЕЛАЛОЎКА
(Кіеўская губерня)

Абарончы замак, закладзены ў XVII стагоддзі княгіняй Ганнай Карэцкай (з Хадкевічаў) для прытулку землякоў, якія ўцяклі з паганскай няволі. У апошні час належала графам Герману і Юзафу Патоцкім.

## BILOLOVKA
(Kiev province)

A fortified castle was founded in the 17th century by Duchess Anna Korecka nee Chodkiewicz as an asylum for the countrymen who ran away from captivity. The estate belonged to Dukes German and Józef Potockis.



Rys z natury Napoleon Orda

Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

BIAŁOCERKIEW.

G. Kijowska.

Na starem Zamczysku z czasów Olgierda założonem r. 1331 stoi Kościół katolicki fundowany r. 1550 przez Frederyka Prońskiego

Sur les ruines du château-fort érigé en 1331 des temps d'Olgierd, fut fondée une Eglise catholique en 1550 par Frédéric Proński.

## БЕЛАЯ ЦАРКВА

(Кіеўская губерня)

На старым замчышчы з часоў Альгерда стаіць закладзены ў 1331 годзе касцёл, фундаваны ў 1550 годзе Фрэдэрыкам Пронскім.

## BILA TSERKOV

(Kiev province)

A Roman-Catholic church in the place of a former castle. Founded in 1331 during the rule of Olgerd. In 1550, the church was fortified by Frederic Proński.



Rys. z natury Napoleon Orda. Lit. w Lit. M. Fajansa w Warszawie.

**BERESTECZKO, nad rzeką Styrem**
**( Gub. Wołyńska. )**

Plac bitwy Króla Jana Kazimierza z Bohdanem Chmielnickim 28 Czerwca 1651 r. w której poległo 30.000 Tatarów i Kozaków. Zabrał im król 40. dział. Pomnik grobowy Alexandra księcia Prońskiego kasztelana Trockiego, aryanina podług zwyczaju tej sekty pochowanego na szczerem polu W oddaleniu, pomnik 5000 dziewic zamęczonych przez Tatarów.

Champ de bataille du roi Jean Casimir avec Bohdan Chmielnicki en 1651 le 28 Juin Ici succombèrent 30.000 Tartares et Cosaques, le roi leur prit 40 Canons. Monument sépulcral du Prince Alexandre Proński Castellan de Troki, Arien, enterré selon l'usage de cette secte en plein champ. Dans le lointain, monument de 5000 vierges massacrées par les Tartares.

## БЕРАСТЭЧКА НАД РАКОЙ СТЫР

(Валынская губерня)

Месца бітвы караля Яна Казіміра з Багданам Хмяльніцкім 28 чэрвеня 1651 года, у якой загінула 30 тысяч татараў і казакаў. Трафеі каралеўскага войска склалі 40 гармат. Надмагілле Аляксандра, князя Пронскага, кашталяна трокскага, арыяніна, пахаванага паводле традыцыі гэтай плыні ў чыстым полі. У аддаленні — помнік 5 тысячам дзяўчат, закатаваных татарамі.

## BERESTECHKO ON THE STYR RIVER

(Volyn province)

The place of the battle between King Jan Casimir and Bogdan Khmelnitsky on June 28, 1651 which saw 30 thousands of the Tatars and Cossacks killed. The salvage of the King Army featured 40 cannons. The headstone of Alexander, Duke of Pronsk, Castellan of Troki, the Arian follower who was buried in the open country by the traditions of this religious trend. In the distance there is a monument to five thousand girls tortured to death by the Tatars.

